# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 95(677)**

Субота, 29 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




## У Беларусі сярэдні месячны заробак рабочых і служачых знізіўся прыкладна да 33 долараў.

## У Фінляндыі, якая таксама не вылзяляецца сыравіннымі рэсурсамі, зарабляюць у месяц:

| | | |
|---|---|---|
| кваліфікаваны доктар | — | 4 450 долараў, |
| інжынер | — | 2 950, |
| кіруючы работнік у грамадскім сектары | — | 2 880, |
| перакладчык | — | 2 440, |
| настаўнік | — | 2 430, |
| пажарны | — | 2 170, |
| медсястра | — | 2 120, |
| вадзіцель аўтобуса | — | 2 070, |
| электраманцёр | — | 2 040, |
| выхавацель дзіцячага сада | — | 1 770, |
| повар | — | 1 610, |
| прыбіральшчыца | — | 1 420. |

## Лідэр "Маладой грамады" Сяргей Марцэлеў дапытаны супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі

Вечарам 25 траўня старшыня маладзёжнага апазіцыйнага руху "Маладая грамада" Сяргей Марцэлеў быў выкліканы ва ўпраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Мінску і Мінскай вобласці. Для аказання юрыдычнай дапамогі юнак запрасіў з сабою выканаўчага дырэктара Беларускага Хельсінкскага камітэта Алега Гулака, аднак таго ў будынак КДБ не пусцілі.

Як паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН кіраўнік "Маладой грамады", напачатку ён лічыў, што яго паспрабуюць "завербаваць". Справа ў тым, што два тыдні таму, паводле слоў Марцэлева, з ім гутарыў адзін з функцыянераў Беларускага патрыятычнага саюза моладзі і прапанаваў пастаўляць для БПСМ аналітычную інфармацыю аб дзейнасці апазіцыі. Аддзякаваць за "паслугі" ён абяцаў грашыма, а таксама паабяцаў садзейнічаць у аднаўленні на факультэце міжнародных адносінаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта, адкуль старшыню "Маладой грамады" ў свой час выключылі за палітычную дзейнасць. Аднак, паводле сцвярджэння С.Марцэлева, ён адхіліў гэтую прапанову.

Супрацоўнікі КДБ, адзін з якіх назваўся маёрам Харлеем, задалі Марцэлеву толькі адно пытанне. Паводле іх звестак, С.Марцэлеў валодае інфармацыяй аб тым, што хтосьці здымаў на відэастужку падрыхтоўку і ажыццяўленне выбуху суда Савецкага раёна горада Мінска восенню 1997 года і мае інфармацыю аб месцазнаходжанні касеты. Сяргей Марцэлеў катэгарычна абверг гэтыя звесткі. Ён быў папярэджаны аб крымінальнай адказнасці, калі ў далейшым гэтая інфармацыя пацвердзіцца. Паводле слоў Сяргея Марцэлева, у кабінеце супрацоўніка КДБ яго таксама ўразіў велізарны партрэт Фелікса Дзяржынскага. На думку кіраўніка "Маладой грамады", партрэты і ідэі дзеячаў з падобнай рэпутацыяй напрыканцы 20 стагоддзя "павінны быць здадзены ў архіў".

## Таццяна Клімава наведала свайго мужа

Таццяна Клімава, жонка дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэя Клімава, арыштаванага 11 лютага 1997 года, наведала свайго мужа ў следчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкама. На сустрэчы прысутнічалі таксама двое дзяцей Клімавых. Гэтая сустрэча адбылася пасля працяглага перапынку. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН Т. Клімава адзначыла, што, па яе назіраннях, стан здароўя мужа зноў пагоршыўся. Яе засмуціў зямлісты колер яго твару, ён скардзіўся на болі ў сэрцы. Жонка дэпутата мае намер бліжэйшымі днямі звярнуцца з заявай да ўрачоў СІЗА з просьбай абследаваць яе мужа, які пакутуе на хранічныя захворванні сэрца.

Як вядома, напрыканцы красавіка А.Клімаву прад'яўлена канчатковае абвінавачанне. Яму інкрымінуюцца крадзяжы ў асабліва буйных памерах, занятак прадпрымальніцкай дзейнасцю (будаўніцтва) без ліцэнзіі, выманьванне крэдыту і іншыя злачынствы. Жонка пераконвала А.Клімава пачаць знаёміцца з матэрыяламі справы.

Як вядома, пратэстуючы супраць незаконнага арышту, ён не ішоў на супрацоўніцтва са следствам, а зараз пісьмова адмовіўся знаёміцца з матэрыяламі справы. Аднак, нягледзячы на просьбы жонкі, арыштаваны застаўся верны прынятаму рашэнню. Па гэтай жа крымінальнай справе абвінавачваюцца яшчэ восем чалавек, адзін з якіх — намеснік Андрэя Клімава Леанід Валковіч — знаходзіцца пад вартай. Паводле слоў Таццяны Клімавай, астатнія абвінавачваемыя напачатку расследавання праходзілі па справе як сведкі, і толькі адносна нядаўна ім было прад'яўлена абвінавачванне.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Михаил ПОДОЛЯК

## Необъявленный бойкот "палатникам"

Нынешних депутатов-палатников абсолютно не смущает тот факт, что всерьез их амбиции и красноречие никто не рассматривает. Скажем, пока президент играет ими словно фигурами в своем "пешечном" гамбите, иностранные коллеги по депутатскому корпусу делают вид, что не знают о существовании белорусского "Национального собрания". Потенциальный же избиратель озабочен исключительно ценами. Полномочий у белорусского парламента — никаких, формальное подтверждение законодательных инициатив президента — не в счет.

Удивляет также то, что в нынешнем парламенте удалось собрать сразу столько безразличных людей. К судьбе страны, к судьбе миллионов людей. Все катится в пропасть, а они делают вид, что все нормально: и жизнь хороша, и жить хорошо. Многих депутатов-палатников прельщает одно — как бы за казенный счет съездить в заграничную командировку.

Поэтому не вызывает особого удивления то разочарование, с которым некоторые "верхнепалатные" депутаты встретили известие о переносе на неопределенное время международной конференции **"Европа без разделительных линий — наш общий дом.** Понять депутатов легко — сорвалась очередная многодневная "халява" за казенный счет.

А событие, так сказать, намечалось по полной программе —с многочисленными секциями по интересам и насыщенной досуговой программой. По некоторым данным, общая смета планируемых "организационных" расходов превысила сумму в ***270 тысяч долларов***. Президент Лукашенко, хоть и скрипя зубами, но поначалу подписал столь солидный бюджет ***"для международной конференции"*** и даже гарантировал личное участие в ее работе.

Что и говорить, событие действительно вселенское. Прежде всего поражает программа конференции. Так, планировалось полновесное обсуждение *"аспектов борьбы с терроризмом и незаконной миграцией"*, а также *"формулирование общих решений по предотвращению экологической катастрофы, связанной с тоннами химического оружия, захороненного в Балтийском море"*. Правда, все громогласные заявления организаторов конференции, что в ее работе примут участие более 150 гостей из 35 государств и 11 международных организаций, в том числе ООН, ОБСЕ, ПАСЕ, оказались не более чем очередным блефом. Как стало известно редакции, никто из зарубежных гостей, кому пытались прислать приглашение организаторы, не изъявил желания приехать в Минск. Обсуждение же проблемы "балтийских захоронений" без присутствия Литвы, Латвии, Норвегии и Дании выглядело бы по меньшей мере нелепо.

Однако белорусские сенаторы не растерялись и решили придать конференции несколько иное звучание, на сей раз сделав акцент на обсуждении "югославской проблемы" с так называемых панславистских позиций. Увы, и здесь депутатов-палатников ждало огромное разочарование. Во-первых, из 60 российских депутатов, планировавшихся для участия в конференции, приехать согласились не более 10—15 человек. Что, собственно, и понятно. Политическая ситуация в соседнем государстве кардинальным образом изменилась после провала процедуры импичмента и замены Примакова на посту премьер-министра. Во-вторых, по заведенной уже традиции прочие славянские государства — Польша, Чехия, Болгария — опять же не выразили особого желания "потусоваться" в Минске. Даже за счет принимающей стороны.

Похоже, белорусские парламентарии-палатники и в самом деле считаются в мировой табели о рангах абсолютно нелегитимными персонами. С ними даже чайку по-соседски пить никто особо не желает.

Итогом всей этой парламентской канители, понятное дело, стало решение о переносе сроков конференции. И виной тому якобы продолжающаяся агрессия НАТО в Югославии. Правда, война идет уже месяца три, а решение "провести" и "отметить" принималось соответственно месяц и неделю назад.

Скорее всего, Лукашенко просто-напросто отказался проплачивать посиделки только для собственных карманных парламентариев. Раз не удалось пригласить хоть каких гостей.

### Надвор'е

29—30 траўня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. 29-га — пераважна без ападкаў, 30-га — месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер 29-га — няўстойлівы, 30-га — заходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы 29-га — +5...+10, 30-га — +7...+12. Удзень +20...+25.



Пр. Аляксандра, Віта, Георгія, Касьяна, Лаўрына, Мадэста, Фёдара, Яфрэма, Музы. К. Магдалены, Тэадозіі.

МАЙ
**29**
'99 СУБОТА

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 4.48 | Поўня |
| Захад 21.28 | 30 мая |
| Даўж. дня 16.40 | Захад 5.45 |
| | Усход 21.26 |



Пр. СЁМУХА (Дзень Святой Тройцы), Еўдакіі, Ефрасінні, Андроніка, Сцяпана. К. Фелікса, Фердынанда, Яна.

ДЗЕНЬ ХІМІКА

МАЙ
**30**
'99 НЯДЗЕЛЯ

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 4.47 | Поўня |
| Захад 21.29 | 9.40 |
| Даўж. дня 16.42 | Захад 6.14 |
| | Усход 22.29 |



Пр. Аляксандра, Клаўдзіі, Матроны, Фаіны, Хрысціны, Юліі, Андрэя, Багдана, Давыда, Дзяніса, Іраклія, Ісака, Паўла, Паўліна, Пятра, Сямёна, Фядота. К. Анелі, Петранелі.

МАЙ
**31**
'99 ПАНЯДЗЕЛАК

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 4.46 | Поўня |
| Захад 21.31 | 30 мая |
| Даўж. дня 16.45 | Захад 6.47 |
| | Усход 23.28 |



## Міжнародны валютны фонд прыняў рашэнне не выдзяляць Беларусі крэдыт у межах праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання

Міжнародны валютны фонд не лічыць магчымым выдзеліць Беларусі крэдыт у межах праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання (CCFF). Такую заяву для прэсы зрабіў 26 траўня дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ спадар Джон Одлінг-Смі.

Паводле яго слоў, удзел Беларусі ў гэтай праграме МВФ, калі рэспубліка магла б атрымаць крэдыт у памеры каля 100 млн. долараў ЗША, спынены. Прычына такога рашэння заключаецца ў тым, што кіраўніцтва краіны не змагло выканаць дамоўленасці ў галіне эканамічнай палітыкі, дасягнутыя з экспертамі МВФ у кастрычніку мінулага года.

Закрануўшы сваю сустрэчу з А.Лукашэнкам і заявы прэзідэнта аб залішняй палітызаванасці стратэгіі МВФ у адносінах да Беларусі, Джон Одлінг-Смі сказаў, што растлумачыў кіраўніку беларускай дзяржавы спосаб кіравання фондам, пры якім рашэнні прымаюцца калегіяльна. "Я растлумачыў спадару Лукашэнку, што Беларусь не выканала тыя ўмовы, якія былі неабходны для атрымання крэдыту CCFF. Як бачна, гэты пункт гледжання не поўнасцю быў растлумачаны народу Беларусі, але, тым не менш, урад і Нацыянальны банк разумеюць, што не ўсе патрабаванні былі выкананы", — падкрэсліў дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ. Выступаючы на брыфінгу, спадар Одлінг-Смі нагадаў, што МВФ — гэта эканамічны інстытут, які прымае рашэнні і заключэнні аб фінансавай падтрымцы краіны выключна на эканамічнай аснове.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## Беларусь пачала выплаты па даўгах Літве за электраэнергію

Беларускі бок зрабіў першыя выплаты па доўгу Літве за пастаўленую ёю ў рэспубліку электраэнергію. Гэтая сума склала 5—7 млн. долараў ЗША. Аб гэтым на брыфінгу паведаміў журналістам прэс-сакратар МЗС Мікалай Барысевіч.

Паводле звестак БелаПАН, доўг Беларусі Літве за электраэнергію складае 80 млн. долараў ЗША. Аднак, паводле інфармацыі літоўскага боку, гэтая сума набліжаецца да 100 млн. долараў ЗША.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

### Стоп-кадр



## Движение контролирует... муляж

По примеру западных полицейских работники Госавтоинспекции Гомельского района изготовили фанерные макеты дорожного патруля с автомобилем. Человеку с жезлом теперь не обязательно караулить движение постоянно. Лишь когда муляж примелькается и водители начинают нарушать установленные правила, он выходит на автотрассу.

**На снимке:** *чем не строгий инспектор?*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

### Позиция

## По мнению Семена Шарецкого, возможное признание Слободана Милошевича военным преступником послужит грозным предупреждением всем диктаторам

Председатель Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Семен Шарецкий прокомментировал БелаПАН сообщение о том, что Международный суд в Гааге собирается предъявить президенту Югославии Слободану Милошевичу обвинения в совершении военных преступлений.

"Мне думается, — сказал С.Шарецкий, — это будет не только справедливое наказание господина Милошевича за проводимый им геноцид, но и грозное предупреждение всем диктаторам, которые ради удовлетворения своих амбиций и целей не считаются с международными принципами, грубо нарушают права и свободы человека, применяют насилие к инакомыслящим".

Председатель Верховного Совета напомнил, что президент Беларуси Александр Лукашенко неоднократно называл Слободана Милошевича своим другом. Теперь, по словам Шарецкого, "весь мир увидит, какой же друг у А.Лукашенко".

События в Беларуси в определенной степени схожи с югославскими, поскольку, как считает С.Шарецкий, и там, и здесь торжествует диктатура. Беззаконие применяется по отношению к Василию Старовойтову и Михаилу Чигирю, Василию Леонову и Андрею Климову, многим другим известным и малоизвестным жителям Беларуси. Продолжением политики диктатуры глава Верховного Совета назвал и подписанный на днях президентом Лукашенко закон о государственной охране. "В этой связи я хотел бы отметить, что упомянутый закон был принят с подачи так называемой Палаты представителей, которую возглавляют бывшие руководители Компартии Беларуси, — сказал С.Шарецкий. — Мне кажется, что это напоминает 1937 год, когда руководители компартии позволили так называемым "тройкам" расправляться с миллионами людей. О тех временах нам и сегодня напоминают Куропаты".

**Владимир ГЛОД.**

### Сенсация

## Кто едет в Бухарест?

Неформальные переговоры между официальными властями Беларуси, оппозицией и так называемым третьим сектором под эгидой ОБСЕ пройдут в Бухаресте с 11 по 13 июня. Тем самым будет осуществлена инициатива специальной рабочей группы по Беларуси Парламентской Ассамблеи ОБСЕ, которую впервые озвучил десять дней назад руководитель спецгруппы Адриан Северин.

Этими переговорами Европейское сообщество пытается еще раз усадить за один стол конфликтующие в нашей стране стороны. Уже определен и персональный состав участников дискуссии. С официальной стороны это "палаточники" — Владимир Коноплев, Юрий Кулаковский, Анатолий Красуцкий, заместитель главы Администрации президента Александр Абрамович, председатель Конституционного суда Григорий Василевич... Оппозицию будут представлять депутаты Семен Домаш, Сергей Калякин, Анатолий Лебедько, Мечеслав Гриб, бывший председатель Конституционного суда Валерий Тихиня...

**Владимир КОТ.**

## Сёння ў Мінску пройдзе ўсеагульны сход членаў Беларускага Хельсінкскага камітэта

Як паведаміла БелаПАН кіраўнік БХК Таццяна Працька, мэта сходу — вырашэнне арганізацыйных пытанняў, звязаных з маючай адбыцца перарэгістрацыяй арганізацыі. Як вядома, у адпаведнасці з прэзідэнцкім дэкрэтам, усе палітычныя партыі, прафсаюзы і грамадскія арганізацыі павінны да 1 ліпеня г.г. прайсці перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі.

Асноўнай праблемай, якая можа ўзнікнуць пры перарэгістрацыі арганізацыі, кіраўнік БХК назвала неабходнасць прызнання вынікаў рэферэндуму 1996 і прынятых у адпаведасці з імі канстытуцыйных папраўак. Гэта, паводле слоў Т.Працька, непрымальна для БХК.

Кіраўнік БХК паведаміла, што калі арганізацыя ўсё ж не будзе перарэгістравана Мінюстам, то яна будзе працягваць ажыццяўляць сваю праваабарончую дзейнасць без рэгістрацыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

### Мини-рецензия

## Жаркое по-гусарски

Среди спектаклей, показанных столичному зрителю Брестским театром драмы и музыки, пожалуй, самое яркое впечатление произвела комедия по пьесе известного польского драматурга Александра Фредро "Дамы и гусары" в постановке режиссера из Люблина Цезари Карпински.

Трое гусар-холостяков говорят, что ни одной женщине в мире не удастся заставить их жениться. Буквально в тот же день к крыльцу имения бравого майора подъезжают изящные кареты, и на "холостяцкую" землю высаживаются три родные сестры офицера, дочь одной из них — Зофья, несколько служанок, а также канарейка в клетке и кот. В течение суток необычный десант производит в доме такие перемены, что гусары безоговорочно признают победы "слабого" пола...

Художественный руководитель Люблинского театра им.Юлиуша Остервы режиссер Цезари Карпински преподал своим белорусским коллегам урок высокого профессионализма. Он мастерски владеет особой техникой раскрытия всех оттенков смысла пьесы, незаметных при беглом прочтении. Зритель, очевидно, и не догадывается, что за легкостью и изяществом актерской игры стоит скрупулезная работа режиссера. Созданные образы полны узнаваемых черт, органичны и рождают сочувствие.

Ярко раскрывается комедийный талант многих актеров брестской труппы, развеивая миф о ее скромном творческом потенциале. Константин Перепелица рисует колоритный образ майора, хозяина имения. Слуга готовит ему либо "гусарское жаркое", либо "жаркое по-гусарски". Развлекаться майор привык стрельбой из крупнокалиберных орудий, вспоминая поговорку: "наши жены — пушки заряжены". Актеру не изменяет чувство меры и в "рискованных" ситуациях, когда особенно важно не допустить пошлости в некоторых диалогах. Отношение его героя к Зофье, несмотря на влюбленность майора, отличают уважительность и такт.

Виктор Михайлов изображает закоренелого холостяка, ротмистра, настроенного еще более непримиримо к женщинам. Однако после разговора с одной из сестер, которая использовала оружие тонкой лести, он быстро превращается во влюбленного мальчишку. А третий завсегдатай холостяцкой компании, молодой поручик, в исполнении Юрия Круценко рисует образ романтического героя. Офицер действительно любит Зофью, и они уже давно решили пожениться...

Женские персонажи представлены талантливой игрой актрис Дины Дойбан, Тамары Багреевой и Тамары Левчук. Три сестры единым фронтом выступают на защиту своих женских интересов, включающих брак своего богатого брата на молодой племяннице. Какие только средства они не использовали для достижения цели! Но Зофья выходит замуж не за майора, а за его друга, поручика, которому старый офицер великодушно дарит... часть своего имения.

Спектакль "Дамы и гусары" в постановке польского режиссера Цезари Карпински заметно обогатил репертуар Брестского театра драмы и музыки. Зрители увидели классическую комедию, создавшую по строгим канонам театрального искусства. Сотрудничество Люблинского и Брестского театров привело к появлению на белорусской сцене спектакля высокого художественного уровня.

**Андрей АХМЕТШИН.**

## На "Народную волю" можна падпісацца дома

Менавіта для гэтага мы сёння змяшчаем падпісны бланк. У выхадны дзень Вы спакойна зможаце яго запоўніць, а ў панядзелак па дарозе на работу ці з работы аднесці на пошту ці ў любы падпісны пункт "Белсаюздруку".

Нагадваем: "Народная воля" — адзіная штодзённая рэспубліканская незалежная газета, якая служыць не ўладам, не партыям, не асобам, а беларускаму народу, Беларусі.

Не маеце магчымасці падпісацца на квартал? Падпішыцеся на месяц, потым прадоўжыце падпіску.

А можа, Вам дапамогуць багатыя людзі?
Ці прафсаюз?
Адным словам, будзем сябраваць!

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

Ф. РД-1 — Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | |

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Народная Воля 29 МАЯ 1999 г.

## Еўрасавет аб выбарах у Беларусі

"Электаральнай кансультацыяй" былі названыя выбары прэзідэнта Беларусі ў Дэкларацыі Еўрасавета ад 17 мая. Дэкларацыя звяртае ўвагу на тое, што "беларускі народ павінен мець магчымасць выказацца самастойна і дэмакратычна па палітычных і канстытуцыйных пытаннях". Акрамя гэтага, Еўрасавет заклікаў беларускі ўрад "неадкладна вызваліць былога прэм'ер-міністра і апазіцыйнага кандыдата Міхаіла Чыгіра".

Што да вырашэння вострага канфлікту паміж прэзідэнтам Лукашэнкам і апазіцыяй, то Еўрасавет заклікаў беларускі ўрад "пачаць ініцыятыву ўвайсці ў палітычны дыялог з апазіцыяй". Апазіцыя была заклікана, у сваю чаргу, "прыняць такую прапанову ў канструктыўным рэчышчы". Місію пасрэдніка ў дыялогу Дэкларацыя ўскладае на назіральна-кансультацыйную групу АБСЕ ў Мінску.

Напрыканцы Дэкларацыі Еўрасавет запэўніў беларускі бок у сваёй зацікаўленасці ў развіцці адносінаў паміж Еўрасаветам і Беларуссю "крок за крокам", а таксама адзначыў, што любы пазітыўны крок з беларускага боку будзе далёка ідучым.

**Максім ПЯТРОЎСКІ.**
Страсбург.

Рэха

## Ці не так?

Прывітанне, шаноўная "Народная воля"!

Чытаючы кнігу "Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы", мяне найбольш уразілі сваёй трапнасцю такія прыказкі: "Усякая птушка сваё гняздо бароніць" і "Толькі ўдод смярдзючы ў сваё гняздо паскудзіць".

Калі мець на ўвазе тое, што адбываецца з нашымі нацыянальнымі святынямі, то асабіста другая прыказка так добра стасуецца да таго, хто спрабуе вынішчыць усё нашае, роднае. Ці не так?

**З павагай — Віктар ФУРМАН.**
Мінск.

Запрашэнне

## "Пяты элемент" па-беларуску

Папулярныя амерыканскія фільмы — на беларускай мове. Іх можна паглядзець у сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (Мінск, вул.Румянцава, 13) кожную суботу а 12-й гадзіне. Дэманструюцца кінастужкі "Пяты элемент", "Ісус", Парк юрскага перыяду", мульцікі "Прыгажуня ў сонным лесе", "Аліса ў Краіне цудаў".

**Алесь ДРАБЧУК.**

Личное мнение

*Анатолий Лебедько, депутат Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, заместитель председателя Объединенной гражданской партии (ОГП)*

# Власть-террорист

## (Наброски к портрету)

Одну из своих последних статей я назвал "Власть-убийца", и заканчивалась она риторическим вопросом "Кто следующий?" Но в окончательном варианте читателю она была предложена под заголовком "Петля", и вопроса-размышления в ней не было.

Хотя размышлять есть над чем. Прошло более сорока дней со дня смерти Геннадия Карпенко. Страна вновь покрылась пупырышками страха. Исчез Юрий Захаренко. Обыватель содрогнулся, но не округлил глаза. Нас отучили удивляться.

Я считаю, 24 ноября 1996 года закончился спокойный период развития страны. Началась "тихая" война. Бессмысленная, тупая, агрессивная. Бандиты при портфелях, воры "в законе", страна в дураках...

Да, канонады и воя сирен не слышно. Но жертвы неизбежны. На войне как на войне. Гибнут лучшие и перспективные. Майсеня, Карпенко, Печерский... Есть политзаключенные — Чигирь, Климов, Кудинов. Есть дезертиры. Кого-то вербуют, кого-то покупают... Таковых набралась целая палата. Список постоянно обновляется. Вот появились без вести пропавшие. Пока только Винникова и Захаренко. Счет же предупрежденных, оштрафованных, уволенных идет уже на тысячи. А ведь главные баталии еще и не начинались. Все это пока сражения на дальних подступах.

Одной из отрыжек "тихой" войны является государственный терроризм. Существует интересный документ — президентский Декрет №21 "О неотложных мерах по борьбе с терроризмом и другими особо опасными насильственными преступлениями". Если б его реализовать на практике, уверен, что многие обладатели кабинетов по столичной улице К.Маркса, 38 стали бы обитателями камер на Володарке.

В соответствии с Декретом под терроризмом подразумевается применение насилия или угроз насилия в целях... запугивания населения... или препятствия политической или общественной деятельности. К проявлениям терроризма относятся: террористический акт, захват заложников, угроза или насилие в отношении личности в связи с выполнением им служебных обязанностей или гражданского долга... Самое занятное, что под данную квалификацию подпадают все громкие дела последних лет, за которыми стоит "Красный дом". В период импичмента Лукашенко часть депутатов подверглась мощному психологическому воздействию. Покупали откровенно и нагло. Запугивали жестоко и цинично. Вследствие чего импичмент не состоялся, а десятки бывших депутатов Верховного Совета резко поднялись по служебной лестнице. Грехи и правонарушения других по благословению президента отпустил Филарет и прикрыл Божелко.

Но посмотрим на происходившее с позиции вышеупомянутого Декрета. Пункт 1.2 гласит: "...если действия осуществлены в целях запугивания населения или оказания воздействия на принятие решений государственными органами, или препятствия политической или иной общественной деятельности, то это влечет наказание лишением свободы от восьми до пятнадцати лет с конфискацией имущества". Действия представителей Совета безопасности, Администрации президента, правительства, плотно работавших в те дни с депутатским корпусом, на мой взгляд, подпадают под этот пункт. Но террористы и по сегодняшний день на свободе. За решеткой оказались совсем другие люди. Пока они в тюрьме, у власти не возникнет проблем с управляемостью прирученных парламентариев. На заложников-депутатов из состава Верховного Совета существовал госзаказ. Власть, пережившая сильнейший стресс в ноябре 96-го, поспешила устроить показательную порку. Верховный Совет был обречен. Удар пришелся по наиболее уязвимым — парламентариям, имевшим несчастье заниматься бизнесом в этой стране.

Склонность к терроризму власть проявляла и демонстрировала неоднократно. Например, желание вернуть ядерное оружие в Беларусь есть не что иное, как план террористического акта. В данном случае в качестве заложника предполагается взять десятимиллионное население Беларуси. Для власти это беспроигрышный вариант. Это та дубина, с помощью которой можно успешно шантажировать международное сообщество и обеспечить персональную безопасность террористов. Никто никогда не станет ворошить ядерный муравейник, особенно если учесть, что он расположен в центре Европы.

Молодые люди начали писать на заборе разные неприятные для президента слова. Увлечение стало модным и массовым. В одно прекрасное утро вся страна грозила покрыться нелицеприятными граффити. Власть прибегла к обычным действиям: захватила в заложники двоих молодых людей — Шидловского и Лабковича. Впрочем, на их месте мог оказаться кто угодно. Цель очевидна. Это был откровенный шантаж молодежи и попытка ликвидировать одну из популярных форм протеста. Тактика прижигания каленым железом дала результат. Дети перестали писать на заборе то, что думают взрослые.

Арест и изоляция Михаила Чигиря — это, я считаю, классический пример политического терроризма. Лукашенко в 1994 году представил Михаила Николаевича стране, как "честнейшего и порядочнейшего человека". Проверка претендента на должность премьер-министра проходила по полной программе. Недавний председатель антикоррупционной комиссии не имел права на ошибку. Глава правительства мог быть каким угодно, но только бескомпроматным. Совершенно очевидно, что все дохлые собаки, навешиваемые сегодня на экс-премьера, из президентской псарни. Так же, как и то, что Михаил Чигирь подписал себе приговор не в мае 1999 года, а гораздо раньше, в ноябре 96-го.

Лукашенко не умеет прощать. Он не может победить, но способен уничтожить. Коленопреклоненного Чигиря власть бы унижала, молчащему — пакостила и гадила при каждом удобном случае. Мятежный, неподконтрольный Чигирь вызывает страх. Поэтому его будут ломать, умерщвлять, втаптывать в грязь. А он — набирать политический вес.

За каждую жертву режим назначает цену. За Леонова запросили подтверждение лояльности и демонстрации преданности со стороны номенклатуры. Леонов — фигура не политическая, но знаковая. Бывшего первого секретаря Могилёвского обкома угораздило быть духовным наставником и опекуном молодого парторга и директора совхоза А.Лукашенко. Факт общеизвестный. Казалось бы, Василий Севастьянович имеет моральное право на особые отношения со своим воспитанником, воспитанником. В силу этих обстоятельств намерение Леонова демонстративно уйти из власти вызывало повышенный интерес в среде чиновничества. Очевидно, что данный шаг мог быть воспринят "вертикалью" как типовой пример поведения в непростой для власти период времени. Ученик преподал урок стареющему учителю. Только он вправе определять, когда, кто и куда может осуществлять передвижения и перемещения. Достаточно с него самовольства Богданкевича, Захаренко, Чигиря, Соснова... "Вертикаль" усвоила преподанный президентом урок "на отлично". Леонов помог. Его пример безотказно воздействовал на болевые и уязвимые места чиновничества.

Излюбленное место содержания жертвы — это тюремная камера. Но не обязательно. Тамару Винникову террористы держали в собственной квартире. В прессе развернулась дискуссия, как это квалифицировать. Как домашний арест или подписку о невыезде? Господа, это типичный терроризм с местным душком. Человек круглосуточно находился под присмотром неизвестных людей, контролирующих и санкционирующих каждый шаг жертвы. В деле Винниковой политики не было. Чего же добивались террористы от бывшей банкирши? Молчания. Наверное, это им удалось.

Десятилетняя Даша Зимовская хочет стать телеведущей, как и ее отец. Об этом она не без гордости поведала в школьном сочинении. Юля Захаренко молит господа Бога только об одном, чтобы ее папа был жив. Она ненавидит то, чем он занимается, — политику.

В детстве юные души хотят быть похожими на своих родителей. С годами у многих это желание проходит. А некоторые и вовсе предпочитают не афишировать родственные узы с обладателями известных или нарицательных фамилий. Так было в постсталинский период. Так будет в постлукашенковское время. И как справедливо подметила одна из учительниц о сестрах Зимовских: "Хорошо, что девочки. Вырастут, сменят фамилию..."

Господин Зимовский способен очаровывать малышей. Поработал долларовыми губками — и новая четырехкомнатная квартира в престижном доме. Пошелестел еще немного устами — и крутая мебель из фешенебельного магазина. Но не все в этой жизни измеряется деньгами. С годами это понимают и дети.

Существуют неписаные правила элементарной порядочности по отношению к оппонентам. Даже на войне солдаты не стреляют в детей и беззащитных женщин. Это удел садистов и нелюдей. С язвительной ухмылкой Зимовский разрядил словесную обойму по семейству Захаренко. Дескать, экс-министр внутренних дел собирал деньги на выборы 16 мая. Оппозиция не выполнила своих обязательств, и сборщик финансов поставлен криминальной братвой на счетчик. Грязная, циничная ложь. Господин Зимовский, помните: есть такая форма борьбы с клеветой, как проклятие. Проклятие матерей. И его не снимет никто. Ни колдун, ни священник. Не излечит ни врач, ни знахарь. Оно сильнее любой сатанинской силы. И не приведи Господь, если оно будет передаваться из поколения в поколение.

В "Красном доме", несомненно, продумывают разновариантные сценарии развития событий. Один из них — проведение под патронажем Лукашенко выборов, которые должны продемонстрировать величие и незыблемость первого "народного" президента. Но без зачистки политического ландшафта сделать это невозможно. А значит, необходимо ликвидировать некоторые неудобные структуры и личности. Совсем как у классика: нет человека — нет проблемы. С этой целью и была задумана перерегистрация политических партий и общественных организаций в период мертвого политического сезона. И не следует удивляться авариям и катастрофам, слабому здоровью и невезению, которые будут преследовать некоторых политиков.

Террор стал элементом государственной политики. У него есть свои идеологи, свои пропагандисты и исполнители. Смею думать, что в стране существует спецгруппа так называемых ликвидаторов, чистильщиков по устранению проблемных личностей. Это предположение основывается на следующих факторах. Во-первых, подобные подразделения существовали и существуют во всех государствах с авторитарным режимом власти. Во-вторых, никто до сегодняшнего дня не опроверг информацию, появившуюся в конце прошлого года о наличии спецподразделений по борьбе с инакомыслящими. В-третьих, этому благоприятствуют личные качества тех, кто сидит в огромнейших кабинетах. Больше всего в этой жизни они любят власть. Они не выпустят ее даже из обессилевших рук. В-четвертых, наличие такой группы не исключают источники в белорусских спецслужбах. А им виднее.

Очевидно, что эта немногочисленная, строго законспирированная спецгруппа, которая комплектуется за счет пришлых варягов и сиротских детей. В случае чего — наводить справки в милиции и морге будет некому.

К сожалению, я вынужден заканчивать и эту статью повторением риторического вопроса: "Кто следующий?".

Стоп-кадр

Минчанки.

Фото IREX/ProMedia.

Адкрытым тэкстам

# Не вешайце лапшу на вушы

## Завочная размова з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь В. СТРАЖАВЫМ

Гаворачы аб стане беларускамоўнага навучання, нашы чыноўнікі ад асветы звычайна прыводзяць лічбу колькасці школ з беларускай мовай навучання (цяпер у нас такіх школ 2 874 — гэта значыць, 61,6 працэнта ад агульнай колькасці). За гэтай лічбай, якая штогод памяншаецца, стаяць малакамплектныя вясковыя ўстановы, якія мала ўплываюць на агульны стан адукацыі. Больш уражальныя і абуральныя звесткі па колькасці вучняў, што навучаюцца на беларускай мове. Іх усяго 30,5 працэнта. Гэтая лічба зменшылася на 2,1 працэнта ў параўнанні з мінулым годам.

Вось табліца, у якой адбіты лічбы прыёму ў першы клас (у працэнтах ад агульнай колькасці вучняў):

| | 93/94 г. | 94/95 г. | 95/96 г. | 96/97 г. | 97/98 г. | 98/99 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Па краіне | 76,0 | 75,3 | 37,9 | 32,0 | 28,7 | 9,7 (у падрыхтоўчых класах — 33,6) |
| У сталіцы | 58,6 | 58,0 | 19,5 | 12,1 | 7,3 | 4,7 (5,3 разам з падрыхтоўчымі класамі) |

Нешта не ладзіцца з логікай і матэматыкай у доктара фізіка-матэматычных навук міністра В.Стражава. Яшчэ ў 1992 годзе ён абяцаў, што "прыблізна праз дзесяць гадоў сістэма адукацыі будзе поўнасцю беларускамоўнай". Ці не наадварот атрымліваецца, Васіль Іванавіч? Ці, можа, паверым сцвярджэнням, што нібыта цяпер гісторыя Беларусі, геаграфія, мастацтвазнаўства, музычная культура ў рускамоўных класах выкладаюцца па-беларуску? Такога яшчэ няма і ў роднамоўных класах. Прабачце, але не магу пагадзіцца і з упэўненай заявай міністра: "Калі мы будзем ісці такім шляхам, у бліжэйшыя 5—7 гадоў у школах з рускай мовай навучання 30—35 працэнтаў прадметаў будуць выкладацца па-беларуску. І пытанне аб тым, ці будзе юны грамадзянін Беларусі ведаць беларускую мову, ужо не будзе стаяць так востра".

Шаноўны міністр, каб дасягнуць гэтага, неабходна ісці наперад, а не пагаршаць становішча. Ваш мінулагодні загад №243, якім скасавана абавязковае вывучэнне беларусазнаўства і зменшана колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы і гісторыі на факультэтах негуманітарных спецыяльнасцяў, не стасуецца з вашымі бадзёрымі заявамі.

Самавольства чыноўнікаў у парушэнні нават існуючага заканадаўства і нарматыўных актаў пераходзіць усе межы. Дайшло да таго, чаго не было нават у так званую застойную пару, — да пераводу вясковых школ на чужамоўнае навучанне і выхаванне. У мінулым годзе такіх школ было 55 (плюс чатыры гарадскія), цяпер да іх дадаліся яшчэ 32 вясковыя і 2 гарадскія, хоць здараюцца і асобныя прыемныя выпадкі адкрыцця беларускіх школ.

Дарэчы, у Мінску няма ніводнай школьнай установы з беларускай мовай навучання. Цяпер ужо не толькі сталічная СШ №19 імя Я.Купалы не мае ніводнага роднамоўнага класа (у мінулым яна мела добрыя беларускія традыцыі), але і Вязынкаўская, што працуе на радзіме вялікага песняра, перайшла на рускую мову. Ці не дзікунства?

Карыстаючыся момантам, хачу даць джэнтльменскую параду тым, хто яшчэ раз намерыцца даводзіць, што ў нас існуе права выбару мовы навучання: не рабіце гэтага, калі паважаеце саміх сябе. У Беларусі ўжо дастаткова свядомых людзей, якім нельга вешаць лапшу на вушы, як і нельга здзекавацца з несвядомых, падманутых яўным цынізмам, якім патыхае ад падобных заяў.

Ведаю, што ў тым жа Міністэрстве адукацыі і іншых установах ёсць нямала нацыянальна свядомых людзей, сапраўдных прафесіяналаў. І ўсё-такі нельга не разумець: сённяшні стан беларускай мовы ў грамадстве ў пэўнай ступені адлюстроўвае працу Міністэрства адукацыі ў цэлым. А яе неабходна прызнаць як від́авочны правал і ў навучанні, і ў выхаванні нашых дзяцей. На парозе XXI стагоддзя ў грамадстве, дзяржаўных установах пануе нацыянальны нігілізм і расійскі шавінізм, падтрымліваецца адыход ад многіх агульначалавечых каштоўнасцяў.

У 1989 годзе, калі стваралася Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, кіраваліся статутам Таварыства беларускіх школ, якое існавала ў Заходняй Беларусі з 1921 па 1939 год. А ў 1996 годзе мы стварылі нашу грамадскую арганізацыю на базе мінскага бацькоўскага камітэта.

На рахунку нашага Таварыства многія цікавыя мерапрыемствы, праведзеныя сумесна з ТБМ: пікеты і мітынгі ў падтрымку беларускай мовы, збор подпісаў за стварэнне нацыянальнага універсітэта, матэрыялаў для "шэрай кнігі" аб уціску на Беларусі мовы карэннай нацыі і інш. Апрача таго, мы апякуемся дзейнасцю "этнашкол", якія разглядаем як правобраз нацыянальнай школы. Карысная работа вядзецца ў гэтым накірунку ў СШ №89 г.Мінска (дырэктар В.Саладуха), Сенніцкай СШ Мінскага раёна (намеснік дырэктара Б.Іванова), СШ №6 Вілейкі (дырэктар А.Сляпцоў). Ствараюцца розныя дапаможнікі, серыі выданняў "Беларускі фальклор у школе", "Бібліятэчка народных свят і прысвяткаў", "Беларусазнаўства" і інш.

Самай значнай падзеяй апошняга часу стала правядзенне Таварыствам беларускай школы конкурсу творчых вучнёўскіх работ "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...", у якім удзельнічала каля тысячы школьнікаў. Больш за 600 дзяцей атрымалі граматы пераможцаў, многія — каштоўныя падарункі, льготныя пуцёўкі на адпачынак за мяжу.

Наш клопат — каб родная мова адраджалася і квітнела, была духоўным здабыткам кожнага беларуса.

*Запрашаем усіх зацікаўленых на другую справаздачна-выбарчую асамблею ТБШ 29 мая (а 11 гадзіне) у СШ №2 г.Мінска (пр.Ракасоўскага, 93), дзе будзе весціся гаворка пра надзённыя праблемы беларускамоўнага навучання і выхавання. Дэлегаты ад суполак павінны мець выпіскі з пратаколаў пасяджэння.*

**Алесь ЛОЗКА,**
**віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы.**

Чулі?

## Міжнародны валютны фонд лічыць, што эканамічная сітуацыя ў Беларусі становіцца ўсё больш складанай

Міжнародны валютны фонд будзе падтрымліваць цеснае супрацоўніцтва з Беларуссю, назіраць за развіццём эканомікі і эканамічнай палітыкай краіны. Аб гэтым на брыфінгу ў Мінску заявіў дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ спадар Джон Одлінг-Смі. Наступным этапам такога супрацоўніцтва стане разгляд справаздачы аб стане беларускай эканомікі за апошні год, якая рыхтуецца экспертамі фонду, на пасяджэнні выканаўчага савета дырэктараў МВФ.

У заяве для прэсы дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ адзначыў, што эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы становіцца ўсё больш складанай. Рост ВУП за апошні год рэзка запаволіўся — часткова ў сувязі з крызісам у Расіі, часткова ў сілу абмежаванасці стратэгіі, якая базіруецца, у асноўным, на хуткім росце крэдытнай эмісіі і ўзмацняючымся дзяржаўным кантролі.

**Аляксей АРЭШКА.**

Stop!

## Прадстаўнікі ЛДП сцвярджаюць, што выбары ў мясцовыя Саветы 4 красавіка ў Баранавічах былі сфальсіфікаваныя

Спроба ліберал-дэмакратаў горада Баранавічы (Брэсцкая вобласць) абскардзіць вынікі выбараў у гарадскі і абласны Саветы, якія праходзілі 4 красавіка г.г., у чарговы раз апынулася беспаспяховай: следам за гарадскім судом Брэсцкі абласны суд адхіліў прэтэнзіі партыі да арганізатараў выбараў.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік Брэсцкай абласной арганізацыі ЛДП Ігар Іваноў, на прайшоўшых выбарах партыя выстаўляла 60 кандыдатаў, 33 з іх — ад баранавіцкай арганізацыі. Дэпутацкія мандаты атрымалі толькі 2 чалавекі. У Баранавічах жа спроба паўдзельнічаць у выбарах пацярпела поўнае фіяска.

Паводле сцвярджэння лідэра баранавіцкіх ліберал-дэмакратаў Вячаслава Тацына, вынікі выбараў у гэтым горадзе былі фальсіфікаваны. Менавіта таму ён звярнуўся ў гарадскі суд з касацыйнай скаргай, патрабуючы прызнаць вынікі выбараў несапраўднымі. У судзе да гэтага сцвярджэння паставіліся са скептыцызмам і паведамілі, што падобная справа не падведамасная судовай сістэме. Пасля гэтага В.Тацын звярнуўся ў Брэсцкі абласны суд, які таксама не задаволіў яго патрабаванняў. Пасля атрымання пісьмовага адказу з аблсуда Вячаслаў Тацын мае намер абскардзіць рашэнне ў Вярхоўным судзе рэспублікі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

Стоп-кадр

*Что бы это значило?*

Фото IREX/ProMedia.

Стоп-кадр

*Очередь минчан в продовольственный магазин по ул.Кирова за молочными продуктами в начале девятого утра 26 мая 1999 года.*

Фото IREX/ProMedia.

## Пры атрыманні хабару затрыманы памочнік пракурора Кастрычніцкага раёна Мінска

Праваахоўнымі органамі Мінска затрыманы памочнік пракурора Кастрычніцкага раёна сталіцы. Затрыманне адбылося 25 траўня ў момант перадачы чыноўніку хабару. Гэтую інфармацыю БелаПАН пацвердзілі ў Мінскай гарадской пракуратуры. Зараз вядзецца разбіральніцтва, на працягу трох сутак павінна быць прад'яўлена абвінавачванне і вызначана мера стрымання. Падрабязнасці гэтай справы трымаюцца ў тайне.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Спецыялісты сцвярджаюць, што з-за адсутнасці сродкаў будаўніцтва Брэсцкага лядовага палаца ў намечаныя прэзідэнтам тэрміны завершана не будзе

Здача ў эксплуатацыю Брэсцкага лядовага палаца ў намечаныя прэзідэнтам А.Лукашэнкам тэрміны — у верасні гэтага года — нерэальная. Паводле слоў будаўнікоў, агульная сума, неабходная для будаўніцтва гэтага спартыўнага збудавання, перавышае 2 трлн. рублёў. Летась будаўнікі асвоілі каля 100 млрд., сёлета — каля 300 млрд. Для таго, каб "увайсці ў графік", тэрмінова патрэбны яшчэ 750 млрд. рублёў.

Многія брэстчане выказваюць непаразуменне наконт такой вострай "неабходнасці" горада ў Лядовым палацы. Асабліва калі ўлічыць, што сёння ў Брэсце ёсць шэраг недабудаваных спартыўных аб'ектаў: лёгкаатлетычны манеж, які будуецца ўжо 10 гадоў, гарадскі спартыўны комплекс "Брэсцкі", дзіцяча-спартыўная конная школа, грабны канал, а таксама стралковы цір.

Дарэчы, паводле папярэдніх падлікаў, штогадовае абслугоўванне Лядовага палаца будзе каштаваць столькі ж, колькі яго будаўніцтва, што стане дадатковым цяжарам для брэсцкіх падаткаплацельшчыкаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## Па шкодных выкідах "лідзіруе" Магілёў

Беларускі Рух філаматаў ("якія імкнуцца да ведаў") і Народны універсітэт пры садзейнічанні Інфармацыйнай службы Пасольства ЗША ў Беларусі выпусцілі ў свет кнігу Аляксандра Чалнакова, Людмілы Юшчанка і Міхаіла Фрыдлянда "Экалагічныя праблемы Рэспублікі Беларусь і шляхі іх вырашэння".

Экалагічны дапаможнік насычаны разнастайнымі даведачнымі дадзенымі па стане прыроднага асяроддзя рэспублікі, асноўным прыродным рэсурсам і іх выкарыстанні. Так, з прыведзеных дадзеных вынікае, што па комплексным індэксе забруджанасці атмасферы (фармальдэгідамі, аксідамі вугляроду, дыяксідамі азоту, пылам, аміякам і іншымі шкоднымі рэчывамі) "лідзіруе" Магілёў, які мае індэкс 10. Мінск, які мае экалагічны паказчык на ўзроўні 3,3, можа лічыцца па гэтым крытэрыі добрым горадам.

Для жыхароў буйных гарадоў пераважаючымі з'яўляюцца хімічныя фактары (прыкладна палова ўсіх гараджан знаходзіцца пад уздзеяннем хімічных рэчываў у канцэнтрацыях, у 5 і больш разоў перавышаючых дапушчальныя).

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

Слышали?

## Растоплен лед, окончен бал...

Явно что-то неладное происходит с не так давно построенным в столице ледовым Дворцом спорта.

Начнем с того, что уже на следующий день после помпезной церемонии открытия с участием президента страны А.Лукашенко во дворце растопили лед и закрылали арену на ремонт. Слишком много у нее обнаружилось недоработок и изъянов. Причем осталось непонятным, для чего же так форсировались сроки сдачи арены, которые оказались действительно рекордно короткими — дворец был возведен всего за одиннадцать месяцев. Вот бы такой "імпэт" и при строительстве школ и поликлиник, которых катастрофически не хватает. Но те прочно "ходят" в долгостроях.

Впрочем, дело даже не в этом, а в том, что совсем не обязательная в данном случае спешка, а также желание строителей поскорее отрапортовать перед "батькой", который лично курировал строительство арены, ни к чему хорошему, как видим, не привели. Ведь главным, похоже, было прокукарекать, а там — хоть не рассветай.

Таким образом, арена начала полноценно функционировать в середине апреля, то есть лишь спустя полтора месяца после своего официального открытия. За это время на ней состоялось несколько товарищеских матчей хоккейной сборной Беларуси, прошел баскетбольный турнир. Но... Недолго музыка играла, ибо с недавних пор дворец закрылся снова. Снова пришлось что-то доделывать. По этой причине, к слову, была перенесена игра ветеранов сборной Беларуси против хоккейной сборной страны, приуроченная к возвращению дружины Анатолия Варивончика с чемпионата мира в Норвегии на менее вместительный крытый каток в парке имени Горького.

...А тем временем бешеными темпами и с бешеным вложением средств идет строительство ледовых дворцов практически в каждом областном центре страны. Впрочем, нисколько не удивимся, если после помпезных открытий их снова придется закрывать. Ведь главное — прокукарекать...

**Дмитрий ЕРМАК.**



## Мінскія гастролі маскоўскага цырка на Цвятным бульвары імя Юрыя Нікуліна

У Мінску на гастролях знаходзіцца Маскоўскі цырк на Цвятным бульвары імя Юрыя Нікуліна. На працягу месяца на арэне Беларускага дзяржаўнага цырка будуць праходзіць гала-паказы "Мы жадаем шчасця Вам...".

Як паведаміла дырэктар і мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяна Бандарчук, мінчанам прадстаўлена новая маладзёжная праграма, у якой прымаюць удзел вучні вялікага расійскага артыста. Сярод найбольш цікавых нумароў — паветраны палёт пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі Уладзіміра Гарамава, якога Ю.Нікулін называў самым элегантным і прыгожым гімнастам у трупе, жангліраванне з каўпачкамі Сяргея Гульчанкі, а таксама прэм'ера нумара канатаходцаў Быкоўскіх.

**Марат ГАРАВЫ.**

